http://navinki.port5.com

# НАВІНКІ

20 - 27 сакавіка 2002 №5(54) Кошт свабодны

Ну цяпер мы абавязкова возьмем «золата»! Хоць бы й на Паралімпійскіх гульнях

БЕЛАРУСЬ

# Паралімпійскія гульні

& катастрофы палітычнай думкі на *стар. 4-5*

## Беларусь наведала афіцыйная дэлегацыя з Іраку




**Н**а нядаўняй сустрэчы ў Менску зь віцэ-прэм'ерам, міністрам фінансаў Іраку Аль-Азаві, А.Лукашэнка падкрэсьліў, што Беларусь катэгарычна выступае супраць вайсковага ціску на Ірак і тым больш катэгарычна супраць вайсковых удараў па Іраку, якія выношваюць «асобныя дзяржавы». Між тым ЗША абвінавачвае Беларусь у вайсковым супрацоўніцтве з Садамам Хусэйнам.

## *Гуманітарная дапамога для Кубы*

А яшчэ трэба будзе чырkануць гранцік у пазабюджэтны фонд камандантэ Лукашэнкі



**Б**еларусь зьбіраецца аказаць гуманітарную дапамогу Кубе, што пацярпела ад урагану й непагоды. Памер дапамогі – 15 кускоў баксаў. З чыіх грошай будзе праводзіцца гэтая «гуманітарка» для самага старога барбудаса, пакуль што не паведамляецца.

20 сакавіка Менск наведаў з афіцыйным візытам Прэзыдэнт UEFA Ленарт Юхансан, які сустрэўся з А.Г. па пытаньнях развіцьця футболу.

Дню Волі прысьвячаецца

## ДЗЕНЬ СУРКА 25.03

Сюррэалістычны комікс на стар.8

Газэта «Навінкі» выходзіць зь лютага 1998 г. Зарэгістраваная ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь 23.02.1999 г. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі №1272. Заснавальнікі: П.Канавальчык, А.Новікаў, А.Мазур. Галоўны рэдактар Паўлюк Канавальчык. Падпісны індэкс **63439**. Адрас для карэспандэнцыі: п/с 33, 220134 Менск, БЕЛАРУСЬ; E-mail: navinki@ring.by; Адрас рэдакцыі: г.Менск, пр.газ.«Известия», 9-143.

Нумар падпісаны да друку 20.02.2002г., а 00.01. Тыраж 3750 экз. Надрукавана з гатовых дыяпазытываў у друкарні ТДА «Знаменіе», г. Менск, вул. Кальварыйская, 24. Заказ №_293__

## Навінкі ў тЭстах

### Ці ў курсе вы апошніх падзеяў?

**1. Што здарылася з золатавалютнымі рэзэрвамі краіны за мінулы год па дадзеных Нацыянальнага Банку?**
А) Цалкам пераведзены на падстаўныя рахункі ў замежных банках
Б) Павялічыўся на 44%
В) Спушчаны на зарплаты настаўнікам і мэдыкам

**2. Хто заплаціць штраф у 170 000 даляраў, накладзены на Пал Палыча Барадзіна швайцарскім судом?**
А) Расейскі ўрад
Б) Яго бацька
В) Карла дэль Понтэ

**3. Што абмяркоўвалі У.Пуцін і А.Лукашэнка падчас нядаўняй тэлефоннай размовы?**
А) Вынікі алімпіяды
Б) Пытаньні разьвіцьця інтэграцыі ў рамках СНД
В) Проста тачылі лясы

**4. Як будзе называцца новае дзяржаўнае ўтварэньне, што зьявіцца на мапе Эўропы ў 2003 годзе на месцы сёньняшняй Югаславіі?**
А) Сэрбія і Чарнагорыя
Б) Босьнія і Герцагавіна
В) Трынідад і Табага

**5. Аб чым дамовіліся кіраўнікі эўрапейскіх дзяржаваў на мінулым саміце Эўрасаюзу ў Барсэлоне?**
А) Паскорыць працэс глябалізацыі
Б) Пачаць далучэньне да саюзу Беларусі і Расеі з дэвізам «Эўропу ў Беларусь»
В) Узьняць пэнсійны ўзрост з 58 да 65 гадоў да 2010 году

**6. МУС Беларусі прапанавала паставіць усю каляровую капіравальна-памнажальную тэхніку на ўлік, бо на ёй друкуюць:**
А) Фальшывыя апазыцыйныя ўлёткі й газэты
Б) Фальшывую валюту
В) Фальшывыя эратычныя выданьні

**7. Міністэрства юстыцыі РБ вынесла папярэджаньне БСДП(НГ):**
А) За правядзеньне несанкцыянаванага мітынгу
Б) За распаўсюд парнаграфіі
В) За дыскрэдытацыю ідэі сацыял-дэмакратыі

**8. Якая купюра выйдзе ў хуткім часе з грашовага абарачэньня ў Беларусі?**
А) 2 USD
Б) 1 BRB
В) 10 DM

**9. Прэм'ер-міністар якой закаўказскай дзяржавы прыяжджае ў Беларусь з афіцыйным візытам?**
А) Арменіі
Б) Чачэніі
В) Ічкерыі

**10. Супраць каго накіраваная апошняя сэрыя тэрактаў на Блізкім Усходзе?**
А) Супраць палестынцаў
Б) Супраць ізраільцянаў
В) Супраць іншаплянэцянаў

**11. Якая арганізацыя накіравала свайго назалежнага дакладчыка ў камісію па правах Чалавека пры ААН?**
А) БХК
Б) ПБСМ
В) ДПС

**12. На якім з аўтазаводаў краінаў СНД будзе наладжаны выпуск аўтамабіляў «Мэрсэдэс»?**
А) МАЗ
Б) ГАЗ
В) ЗАЗ

Правільныя адказы: 1-Б, 2-А, 3-Б, 4-А, 5-В, 6-Б, 7-А, 8-Б, 9-А, 10-Б, 11-А, 12-В

# «Будуем гарналыжныя курорты»

*Вярнуўшыся з Альпійскага адпачынку, Лукашэнка агаломшыў новым супэрспартовым праектам, на які ён ужо пасьпеў падпісаць кантракт*

Здавалася, мінулі тыя часы, калі прыналежнасьць да вышэйшай палітычнай касты патрабавала ад чалавека заняткаў адпаведным відам спорту: тэніс, гольф, дзюдо і г.д. Рыгорыч да нядаўняе пары абвяргаў гэтую ісьціну, гуляючы ў хакей, які ўжо ніяк не назавеш элітарным, хутчэй – масавым. Але гэта толькі да нядаўняе пары. Пасьля апошняй паездкі ў Альпы і ён выбраў экзатычныя для нашых мясьцінаў горныя лыжы. Ці то аўстрыйская прырода так паўплывала на рашэньне прэзыдэнта, ці то апошні саміт кіраўнікоў СНД, дзе ён вымушаны быў назіраць з боку за высокагорнымі выкрунтасамі Пуціна, ці то сем гадоў працы без адпачынку адбіліся на здароўі. Вядома толькі, што вырашана культываваць гэты спорт у Беларусі.

Па словах прэс-сакратара А.Лукашэнкі Натальлі Пяткевіч, кіраўнік дзяржавы дамовіўся з аўстрыйскімі бізнэсмэнамі пра будаўніцтва ў Раўбічах гарналыжнай трасы. Няцяжка падлічыць, колькі будзе каштаваць насып такой трасы і разьвіцьцё ўсёй інфраструктуры. Застанецца пабудаваць бабслейны трэк, нанесьці на лядовыя каткі разьметку для кёрлінгу ды перавесьці хімічную прамысловасьць краіны на вытворчасьць допінгу – і можна сьмела падаваць заяўку ў МАК на правядзеньне зімовай алімпіяды Раўбічы'2010 ●




## РазбОркі

### Зноў курапацкія

Традыцыйныя мэтады палітычнага супрацоўніцтва ўсё больш саступаюць месца мадэрновым разборкам па панятках. Тыповы прыклад – канфлікт на мінулым тыдні паміж абаронцамі Курапатаў і Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыяй БНФ. У аўторак старыкашкі прынялі заяву, у якой наехалі на курапацкіх – па ціпу тыя толькі шасьцёркі ў запарафіненых грантасосаў, а самыя асноўныя ў Курапатах – прадстаўнікі КХП БНФ. Але курапацкая братва вырашыла канфлікт хутка і па-сучаснаму. Замест галімых прэс-канфэрэнцыяў і патрабаваньня сатысфакцыі на «стрпале» быў зроблены толькі адзін званок – на мабілу Пазьняку ў Варшаву. І ўжо ў сераду ягоная брыгада прыпаўзла з прабачэньнямі. Маўляў, «выбачайце, хлопцы, мы ня вас мелі на ўвазе». І ўвогуле, поўная згода, васалітэт і адмова ад наездаў на вечныя вякі. А вы што думалі? Галоўнае пры непанятках – у патрэбны момант вышчыміць брыгадзіра.

# Дзень Канстытуцыі

## Першая ластаўка апазыцыйнай вясны




Чарговая вясна змаганьня з рэжымам, якая традыцыйна пачынаецца для апазыцыі 15 сакавіка (Дзень Канстытуцыі), наўрад ці мае быць гарачай. Пра гэта яскрава сьведчыць сёлетні сацыял-дэмакратычны сабантуй, які прайшоў надзіва шэра і банальна. Аднак адзіная акалічнасьць, на якую не зьвярнула ўвагі аніводная незалежная газэта, дае падставу рабіць далёка ідучыя высновы наконт пэрспэктываў вулічных хуліганстваў у гэтым годзе. Упершыню з дэманстрацыі міліцыя сышла першай (вядома, пасьля самога лідэра эсдэкаў), пакінуўшы купку прыхільнікаў Статкевіча сам-насам са сваімі «далоямі» і «жывебеларусямі». Невядома, ці арганізатары таемна дамовіліся зь міліцыяй, ці то на пятачку перад АМАПам засталіся адныя «ціхары», аднак ужо гэта можа азначаць, што апазыцыйныя дэманстрацыі даўно ўжо нікога не цікавяць, нават супрацоўнікаў унутраных справаў. Калі так пойдзе далей, то Дзень Волі ўвогуле прыйдзецца арганізоўваць самому МУС, у прымусовым парадку зганяючы на вуліцы сталіцы ўчастковых са сьцягамі й транспарантамі ●

## NO cOmments

# Нам мыла ня трэба...

Наш стары знаёмы нэалібэральны аналітык Яраслаў Раманчук нядаўна парадаваў нас сваімі новымі пэрламі. У *Белорусской Газете* (18.02.2002) ён падрыхтаваў цэлы разгарот эканамічна-фінансавай інфармацыі пад рубрыкай «Без камуфляжа», зь якой мы даведаліся шмат цікавага. Напрыклад, у артыкуле «Сколько зарабатывают белорусы» мы ўпершыню пачулі пра існаваньне сельгасвытворцаў-нефармалаў, а лепшы лек ад дэмаграфічнай катастрофы – замежныя інвэстыцыі й шырокамаштабная прыватызацыя. Некаторыя ж вытрымкі з матэрыялу «Нам мыла не надо, хлеба давай» мы нават вырашылі праілюстраваць для нашых чытачоў ●




**«Аказваецца, амаль 2,5 млн. беларусаў не купляюць мыла, шампунь або зубную пасту, ня кажучы ўжо пра сродкі з крылкамі і вяровачкамі.»**

**«Для пераважнай часткі хатніх гаспадарак такія словы і выразы, як «абменны курс», «дэвальвацыя», «інфляцыя» і надалей зьяўляюцца лаянкай.»**

**Структура расходаў беларускай сям'і сьведчыць... пра нястачу больш за трэць сем'яў, якія без фінансавай дапамогі сваякоў і натуральнага абмену апусьціліся б да ўзроўню афрыканскага спажывецкага кошыку.»**

## УсьвЕце

### Афрыканская Беларусь

На чорным кантынэнце ў беларусаў зьявілася краіна-пабрацім – Зымбабвэ. Справа ў тым, што пасьля прэзыдэнцкіх выбараў, якія адбыліся ў гэтай краіне 10 сакавіка, супраць Зымбабвэ ўведзеныя міжнародныя санкцыі, а шэраг цывілізаваных краінаў разарвалі ўсялякія стасункі з урадам гэтай дзяржавы. Дакалупка ўсё тая ж: нібыта прэзыдэнт Магабэ быў пераабраны на новы тэрмін, па-просту фальсыфікаваўшы выбары. Яшчэ адна паралель: галоўны апанэнт дзеючага прэзыдэнта – нейкі мясцовы ганчарык, прафбос. Вядома ж, зымбабвійскі народ падтрымлівае свайго бацьку і не паддаецца на правакацыі розных палітычных адпалёнкаў.

# Перад бітвай

У беларусаў зьявіўся шанец у гэтым годзе скінуць лішнюю вагу. Замест таго, каб жэрці халестэрын і мучныя прадукты, раім вам назапашваць «Гербалайф».

*Хочаш сей, а хочаш куй*
*Усё раўно палучыш...*
*(з фальклёру)*

Вось, табе, бабка, і Юр'еў дзень! Колькі мы ні верылі ў стабільнасьць нашай сельскай гаспадаркі, але вясна нанесла ўдар пад дых усяму беларускаму агра-прамысловаму комплексу. На гэты раз час севу прыйшоў вельмі раптоўна й нечакана, застаўшы зьнянацку ўсе нашыя працоўныя рэзэрвы. У інтэрвію БТ віцэ-прэм'ер ураду Аляксандар Папкоў заявіў, што калгасы і саўгасы краіны не падрыхтаваліся да вясновай пасяўной. Дзяржава ня мае ў дастатковай колькасьці мінэральных угнаеньняў і гаруча-змазачных матэрыялаў. Да таго ж, ня скончаны рамонт сельскагаспадарчай тэхнікі і жывой сілы, якая атрымала вялікія страты ў леташніх баях за ўраджай пад Лідай і Ваўкавыскам.

У сувязі з гэтым, па словах Папкова, урад «пераходзіць у рэжым актыўнай працы, і шукае магчымасьці зьняць усе праблемы, якія перашкаджаюць правядзеньню вясновa-палявых работ».

Спадзявацца на дапамогу па «лэнд-лізе» ад Усходніх саюзьнікаў у гэтым годзе не прыходзіцца. Аднак галоўнае, што досьвед у вырашэньні праблемаў у дзяржавы ёсьць – трэба проста абавязаць дзяржпрадпрыемствы забясьпечыць стратныя гаспадаркі палівам, а банкі – выдзеліць ільготныя крэдыты.

Але гэтага будзе недастаткова, пакуль самі грамадзяне ў дабраахвотным парадку не адгукнуцца на покліч радзімы й не дапамогуць хто чым можа.

І тады мы ўсе разам наблізім шчасьлівы й сыты час сьвяткаваць галоўнае дзяржаўнае сьвята перамогі над ураджаем «Дажынкі» ●

**Васіль Старавойтаў**



## Мэрсэдэс – крутая тачка

Усьлед за Гомельскай, чыноўнікі Магілёўскай вобласьці перасаджваюцца з айчынных Волгаў на заморскія Мэрсэдэсы. Адміністрацыя прэзыдэнта праспансавала тачкі кожнаму старшыні райвыканкаму. Усяго на Магілёўшчыну прыпадае 28 жалезных канёў. На чарзе – Віцебшчына.

За якія заслугі атрымала вэртыкаль такі шыкоўны падарунак? Ці не за ўдала праведзеныя выбары? Як інакш патлумачыць гэтае рашэньне, калі высокімі паказчыкамі ў прамысловасьці й сельскай гаспадарцы намэнклятуршчыкі пахваліцца ня могуць. Каму выгадная гэтая замена ў цяперашняй эканамічнай сытуацыі? Хто пралабіраваў такое рашэньне і хто атрымаў на кішэню за кантракт на пастаўку тых жа самых Мэрсэдэсаў? Вось пытаньні, якімі павінна зацікавіцца пракуратура ●

Крутая цялега, век бы езьдзіў

Гэта што, а за наступныя выбары можа самалёт выдадуць

...Тры! Прададзена вунь таму джэнтэльмэну ў капелюшы і з доўгімі пэйсамі.

## Сынагога – на аўкцыён

У горадзе Барысаве, мясцовыя ўлады плянуюць выставіць на аўкцыён будынак былой сынагогі, пабудаванай у 1906 годзе яўрэйскай абшчынай. Факт гэты заслугоўвае пільнай увагі, бо згодна з законам, калі былы культавы будынак перастаюць выкарыстоўваць у якасьці складу ці спортзалі (бо менавіта так выкарыстоўваўся гэты будынак дагэтуль), храм трэба перадаць вернікам. Але, відаць, мясцовыя ўлады вырашылі не саступаць у кемлівасьці племені Давідаваму і вырашылі паводле старой усходняй традыцыі патаргавацца. А разьлік сапраўды геніяльны: яўрэі (якія, дарэчы, ужо заявілі свой афіцыйны пратэст) не зьбіраюцца саступаць сваю культурную спадчыну якім-небудзь гоям-спартоўцам, аднак у выніку ім нічога не застанецца, як выкупіць сваю сьвятыню назад, прабашляўшы гарсавету кругленькую суму ў шэкелях. Так што можна быць пэўным, што сынагога вернецца да сваіх законных уласьнікаў, а горад заробіць грошай для сёлетняй пасяўной кампаніі. А вы кажаце Бабруйск, Бабруйск ●

**Андрэ Жыд,**
пісьменьнік

## «IT'S YOUR MONEY, YOUR CHOICE, YOUR FUTURE»

(Дэвіз прыхільнікаў лібэральнай пэнсійнай рэформы з фонду ТАТО)

Адпаведна беларускай прэсе, у нетрах роднага ўраду пачалося мазгавое бражэньне. Рыхтуецца законапраект аб новай пэнсійнай сыстэме. Стан існуючай у краіне сыстэмы пэнсійнага забесьпячэньня вызнаны незадавальняючым. Даходы пэнсіянэраў адстаюць ад узроўню сярэдняга пражытковага ўзроўню прыкладна ў 2 разы. Прынятая ў краіне сыстэма разьмеркавальная, г.зв. pay-as-you-go system, гарантуе кожнаму пэнсіянэру ў незалежнасьці ад памераў заработнай платы базавы ўзровень пражываньня.

На самой справе з-за маленькіх бюджэтных сродкаў грошай на пэнсіянэраў не хапае. На думку Саўміна рынкавая пэрспэктыва патрабуе траціць меней грошай прадпрыемстваў на сацыяльную абарону. Вырашана запазычыць у Сусьветнага Банку мадэль г.зв. трохузроўневай сыстэмы.

Першым узроўнем стане базавая (сацыяльная) пэнсія. Другім узроўнем працоўная (страхавая) пэнсія. Будуць уведзеныя пэрсанальныя рахункі. У выніку сярэдні сукупны памер разам з сацыяльнай пэнсіяй будзе раўняца 55-60% твайго сярэдняга заробку. Адначасова плянуецца забараніць працаваць пэнсіянэрам. Адкуль браць грошы? Ёсьць трэці ўзровень – недзяржаўная пэнсія. Яна можа выглядаць як асабістае страхаваньне грамадзянаў у прыватных пэнсійных фондах. Разьвіцьцё трэцяга ўзроўню павінна стымулявацца і выходзіць на першы плян. Упершыню такая рэформа была праведзеная ў фашысцкай Чылі ў 1980 г.

У 1981 годзе ў Чылі дзяржаўная пэнсія замененая сыстэмай PSA (pension savings accounts) – адпаведна якой працоўны атрымлівае пэнсію адпаведна той суме, якую ён адклаў за гады працы. 10% свайго заробку ён штомесяцу пераводзіць на свой асабісты рахунак. Акрамя таго ён абірае адзін з прыватных пэнсійных фондаў, які інвэстуе ягоныя грошы ў акцыі прадпрыемстваў. Паколькі рабочы сам абірае сабе кампанію, фірмы намагаюцца заахвоціць яго прыбыткамі і нізкімі камісійнымі. Дзяржава ня мае права ўмешвацца ў дзейнасьць фонду, аднак патрабуе, каб фонд укладаў грошы выключна ў рэнтабэльныя праекты.

Як паказвае экспэрымэнт у некаторых вобласьцях Расеі, пераход на індывідуальную форму налічэньня пэнсіяў дэ факта азначае, што большасьць насельніцтва не ахопленае пэнсійнай сыстэмай. Як правіла амаль 30-40% працоўных батрачаць у сэктары г.зв. «шэрага рынку», чые супрацоўнікі ня плацяць падаткі і, адпаведна, ня могуць мець пэнсійнага рахунку. Нават у ЗША пэнсійныя рахункі маюць толькі 60% насельніцтва. Яны могуць пайсьці іншым шляхам: інвэставаць у прыватныя фонды. Аднак, замежны досьвед дэманструе, што вялікія групы насельніцтва нават падчас сваёй актыўнай працы ня маюць магчымасьці мець даход, які б даваў ім права акрамя задавальненьня паўсядзенных патрэбаў пералічваць грошы на старасьць. Акрамя таго, нават у выпадку рэгулярнай выплаты пэнсіі нестабільныя, залежаць ад канвульсіяў рынкавага курсу.

Другая праблема ў тым, што кліенты пэнсійных фондаў вельмі слаба ведаюць, што адбываецца на фінансавых рынках. Напрыклад, адсутнічае разуменьне залежнасьці паміж мерай рызыкі і абяцанымі даходамі. У выніку хатнія гаспадыні могуць рэальна весьціся на рэкляму нейкага прайдзісьвета, які абяцае, што да вашага выхаду на пэнсію кожны ваш рубель ператворыцца ў чырвонец. Толькі алаху вядома, колькі лахоў пагарыць на наступнай рэформе і наіўнай веры ў прыгожы слоган «It's your money, your choice, your future». Дарэчы, дзяржаўныя формы пэнсійнага забесьпячэньня складаюць аснову пэнсійных сыстэмаў абсалютнай большасьці краінаў за выключэньнем жменькі лацінаамэрыканскіх краінаў, дзе памеціліся нэалібэралы.

# Паралімпійскія гульні &

## Ці зьяўляецца палітычна карэктным праводзіць паралелі сярэднявечнымі г.зв. «цыркамі ўродаў»? А ці можна

Сакавік аказаўся багатым на рознага кшталту экзатычныя шоў. У Менску праходзіць выстава воскавых фігураў «Катастрофы чалавечага цела». Тысячы беларусаў з задавальненьнем башляюць па 1500-2000 зайцоў, каб падзівіцца на муляжы чалавека-штопара, чалавека-пінгвіна, трохвокіх, біцэфалаў і іншых цудаў людзкой рэпрадукцыі. "Вось як на сьвеце бывае!" – штодзень усклікае чарговы наведнік, складаючы ў галаве хіт-парад фізычных анамаліяў, дэманстрацыю якіх ён толькі што пабачыў.

Тым часам, у гарах далёкага амэрыканскага штату Юта праводзяцца сусьветныя зімовыя Паралімпійскія гульні, дзе зборныя інвалідаў розных кантынэнтаў і краінаў спрачаюцца за залатыя, срэбныя і бронзавыя мэдалі. Ёсьць там і беларуская каманда. Выступае яна моцна, чым выклікае, напэўна, прыліў зайздрасьці нашых «нармальных» алімпійцаў з кіраўніком НАК на чале. "О як бывае!" – адзначае шараговы аматар спорту, калі бачыць, як людзі бяз рук і ног, сьляпыя, зь іншымі фізычнымі і псыхічнымі цяжкасьцямі і анамаліямі робяць фокусы, якія яму самому й ня сьніліся.

Здавалася б, паміж дзьвюма падзеямі няма аніякай сувязі, акрамя адной: у абодвух выпадках дзеючымі асобамі шоў выступаюць людзі з адхіленьнямі. У астатнім, быццам бы, поўная супрацьлегласьць. У Менску бездыханны воск выстаўляе на пацеху «відовішчныя» тыпы інваліднасьці, у Солт-Лэйк-Сіці ж дэманструецца здольнасьць спорту інтэграваць інвалідаў у грамадзтва, здольнасьць самых людзей з абмежаванымі магчымасьцямі дасягаць алімпійскіх вышыняў і, тым самым, пазбавіцца ярлыка ананімных ізгояў соцыюму. Аднак гэта, так бы мовіць, афіцыйная вэрсія. Як паказваюць апошнія скандалы ў сталіцы мармонаў, за палітычна карэктным фасадам гэтага спэктаклю салідарнасьці і гуманізму можа хавацца надзвычай непрыглядная рэчаіснасьць.

Нягледзячы на эгалітарную фразэалёгію, па сутнасьці, паралімпійскія гульні недалёка адыйшлі ад сваіх бліжэйшых прабацькоў: «цыркаў уродаў» і старадаўніх кірмашовых атракцыёнаў, падчас якіх інваліды забаўлялі народ ці то ўласна «катастрофамі чалавечага цела» (барадатыя жанчыны, карлікі, гарбуны і да т.п.), ці то ўменьнем рабіць розныя выкрунтасы са сваімі прыроджанымі анамаліямі і набытымі калецтвамі. Чаго вартыя хаця б спаборніцтвы ў «мятаньні карлікаў», якія некалі зьбіралі натоўпы гледачоў. Вядомыя гісторыі пра г.зв. «самавараў» - бязрукіх і бязногіх калекаў Вялікай Айчыннай, у пасьляваенныя гады вымушаных жабраваць, дэманструючы за грошы сваё ўменьне лоўка адкаркоўваць бутэлькі, альбо арганізуючы баі зь іншымі «самаварамі». У той сама час на Захадзе да гэтага пытаньня паставіліся больш рацыянальна: у 1948 годзе ў Англіі адбыліся першыя спаборніцтвы сярод інвалідаў, а ў 1960 годзе ў Рыме, адразу пасьля Алімпійскіх, стартавалі й Паралімпійскія. Кірмашовыя шоў квазымодаў, такім чынам, ёсьць архетыпам для сёньняшняй тэндэнцыі да прафэсіяналізацыі інваліднага спорту.

Нядаўні допінг-скандал з паралімпійскім чэмпіёнам Томасам Ольснэрам у Солт-Лэйк-Сіці выдатна паказаў, што стаўкі на гульнях інвалідаў надзвычай высокія, а паралімпійскі спорт становіцца ўсё больш рэнтабэльнай рынкавай нішай.

Натуральнае памкненьне да эмансыпацыі чалавека чарговы раз ператвараецца ў даходнае шоў. Зьяўленьне рынку інваліднага спорту – не прарыў правоў інвалідаў, а наадварот, вядзе да яшчэ большай іхнай сацыяльнай ізаляцыі і фактычна вяртаньня да цемрашальнай эпохі пацешных спаборніцтваў уродаў і адмысловых калецтваў дзеля грашовай выгады і кар'еры (гумплен, хоры кастратаў і г.д.).

***

Аднак пакінем у баку яўныя людзкія цяжкасьці, што могуць увесьці ў зман нашага чытача. Бо сапраўдным нашчадкам сярэднявечных шоў уродаў зьяўляецца барацьба за ўладу.

Яшчэ Свіфт заўважыў падабенства палітычнага тэатру з цыркам. Гэтак у першай кнізе падарожжаў Гулівера ліліпуцкія міністры скакалі на дроце і ўрадавыя ўзнагароды атрымлівоў той, хто вышэй скокнуў. Сёньня палітыка ператварылася ў сапраўднае скаканьне на дроце.

Беларускія ж палітычныя гульні можна акрэсьліць хутчэй як парапалітыку, бо сапраўдныя «мэдалі» разыгрываюцца на зусім іншым узроўні – эканамічным і геапалітычным.

Бо як па-іншаму можна разглядаць хаця б мінулае шоў «Выбары прэзыдэнта», як не гульню ўсьмешлівага гіганта-гумплена з палітычнымі карлікамі-апанэнтамі.

Нават у старшыні Цэнтарвыбаркаму Ярмошынай, нягледзячы на яе поўную залежнасьць, аказалася больш мужнасьці, чым у парапалітычных кандыдатаў на залаты мэдаль у спаборніцтве.

Апазыцыя нават не была ў стане аб'яднаць высілкі сваіх ліліпуцкіх партыяў вакол «адзінага кандыдата». Адзіным аргумэнтам беларускай дэмакратыі было не пагаршэньне эканамічнай сытуацыі ў краіне, а... зьнікненьне Завадзкага, Ганчара і Ко. Завадзкі, на задуму апазыцыйных пі-аршчыкаў, мусіў ператварыцца ў нямы папрок рэжыму, які павінен быў абудзіць соннае грамадзтва. Яго так зацягалі па шарпатых палосах «незалежных газэт», што народ нават быў зацікавіўся, а хто ж ён увогуле такі.

*Беларускія палітычныя гульні можна акрэсьліць хутчэй як парапалітыку, у якой бяруць удзел гумплены і карлікі, жанчына з барадой і сыямскія блізьняты...*

Сьлінява-памінальны тон перадвыбарчых газэтных спэцвыпускаў у духу мастадонта беларускай жоўта-палітычнай прэсы А.Фядуты раздражняў гледача-выбаршчыка.

Ды й самі карлікавыя партыі забаўляюць сваімі веліканскімі амбіцыямі. Прыгадаць хаця б вазьню вакол двух БНФ-аў, дзе адзін зь лідэраў даўно ўжо стаў палітычным выкідышам зь беларускага кантэксту й цешыць сваімі закардоннымі нумарамі.

Увогуле, парапалітычнае шапіто прапітанае жахам перад уладамі й боязьзю перасьледу. Гэты атавізм постсавецкай псыхалёгіі літаральна тэрарызуе кожнага актывіста, які толькі й чакае, каб адкінуцца за мяжу ў якасьці палітычнага ўцекача. Напрыклад, лідэр Аб'яднанай Грамадзянскай Партыі шакіруе грамадзкасьць пастаянным пошукам «жучкоў», нібыта «хвост» спэцслужбаў не пакідае яго нават на хатнім бідэ.

Не лягчэй і з сацыял-дэмакратыяй, якая нагадвае сыямскіх блізьнятаў, што пабіліся між собку за «цацку» (дапамогу заходніх братоў-спонсараў). «Скажыце, вы бэнээфавец?» – «Не, я сацыял-

# катастрофы палітычнай думкі

## паміж сучаснымі спартовымі спаборніцтвамі інвалідаў і параўнаць апошнія зь беларускай палітычнай арэнай?

дэмакрат!» – «А зь якой партыі, Шушкевіча ці Статкевіча?» – «Крыўдзіш! Я за Караля!»
Спэцыфіка беларускай палітыкі ў тым, што тут літаральна ўсе займаюцца тым, што на мове людзей дасьведчаных называецца «ляпіць гарбатага». Беларускім палітыкам не хапае толькі афіцыйнага статусу асобы з палітычнай катастрофай думкі.

Прафэсар Прэабражэнскі



# Герой нашага часу

## 25 сакавіка кампутарны клюб «ІТ» праводзіць першыя рэспубліканскія спаборніцтвы па гульні «Heroes III».




«Подых сьмерці»... Для каго вынік гульні будзе фатальным?

Кампутарная гулька «Heroes of Might and Magic» сапраўдны хіт на рынку кампутарных цацак, якая ў свой час надоўга паралізавала дзелавую актыўнасьць не адной канторы. Асабліва яе папярэднія вэрсіі «Подых сьмерці» і «Меч Армагедону» надоўга вырубаюць гульца з рэальнага сьвету з усімі ягонымі складанасьцямі і супярэчнасьцямі. Гульня дае акрамя ілюзіі занятасьці яшчэ й адчуваньне ўласнай сілы й магутнасьці, якой ня можа даць рэальнае жыцьцё.

«Маё жыцьцё зьмянілася», – гаворыць геймэр са стажам Арсень С., які пачынаў гуляць яшчэ ў самыя першыя вэрсіі гульні. – «Нават на вуліцы я стаў больш пільна глядзець пад ногі ў пошуках артэфактаў і рэсурсаў. А калі мяне звольнілі з працы, гэтая звычка стала дапамагаць мне здабываць свой кавалак хлеба. То рубель знайду, то дзясятку, а то і пустую бутэльку з-пад гарэлкі».

«Я заўсёды гуляю за арханёлаў», – гаворыць дыякан царквы Прола і Лаўра Яўлампі (у міру Яўстафі Пядоркін). – «Аднойчы бес паблытаў, выбраў сабе місію з архід'яблямі, але з трэскам прайграў, і ўсю ноч мне сьнілася, як барадатыя дзядзькі мудохаюць мяне вогненнымі дручкамі па задніцы, прасьці, Госпадзе...»

«Калі мы едзем у грамадзкім транспарце безь білету, заўсёды ўяўляем, што маем магічную сілу стаць нябачнымі, альбо асьляпляем кантралёра, пакуль тралейбус не даедзе да нашага прыпынку», – гавораць студэнты Політэхнічнай Акадэміі Саша К. і Ўлад П. – «І ведаеце – дапамагае! Кантралёры адчуваюць магічную аўру і абыходзяць нас. Аднойчы толькі не дапамагло – хацелі прайсьці на халяву ў мэтро, але ў кантралёркі была магія «запавольваньня» і яна нас здала мянту, таксама заўзятаму гульцу».

Цікава, што арганізатары спартовага фэсту абралі датай для правядзеньня спаборніцтваў Дзень Волі – дзень ушанаваньня нашых продкаў, якія ў далёкім 1918 годзе паспрабавалі пабудаваць сваю цывілізацыю, але ім не хапіла стратэгічных здольнасьцяў і троху маны. Магчыма, новаму пакаленьню, загартаванаму ў барацьбе з траглядытамі, цэрбэрамі і вогненнымі іфрытамі, пашанцуе больш, хто ведае ●

**Мэрлін,**
маг трэцяй гільдыі

## ДОшка аб Яваў

Два беларусы (24, 53) і дзьве беларускі (26, 47) шукаюць працу ў беларускамоўным асяродку. Тэл. 257-93-11

Прывабны хлопец (1974/168/вадалей/БШЗ) шукае сяброўку для сумеснага здыманьня кватэры. Інтым не прапаноўваць. Адрас: п/с 28, 220140 г.Менск.

Хлопчык (24/185/70) шукае сябра. Кантакт: п/с 97, 220006 Менск.

Маладая сям'я з двух чалавек (супрацоўнікі газэты *Навінкі*) здыме дом у прыватным сэктары на працяглы тэрмін. Тэл. 220-83-77, Насьця.

Набуду канапу, б/у, у добрым стане. Тэл. 220-83-77 Пятнік.

Набуду халадзільнік, б/у, у добрым стане. Тэл. 205-20-90, Дзяніс

### Умовы разьмяшчэньня абвесткі ў газэце

**Пералічыце 400 рублёў праз пошту пераводам на разьліковы рахунак рэдакцыі: рэдакцыя газэты «Навінкі», р/р 3012201400013, Купалаўскае аддзяленьне ОАО «БелІнвестБанк», г.Менск, код 481. На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запішыце дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадайце сказ: «За рэклямныя паслугі».**

## Ліст у рэдАкцыю

### «Ні лях і ні маскаль!..»

Апошнім часам на старонках айчынных мэдыяў пачасьціліся спробы пад выглядам «рэабілітацыі» абазраць памяць славутай нацыяналістычнай паэткі Ларысы Геніюш. Гэтая жанчына была жонкай вядомага калябаранта. Натуральна, падчас вайны яна аціралася ў акупацыйных органах, за што пры Саветах яе арыштавалі і адправілі на варкуцінскія руднікі. Пасьля вайны яна адмовілася браць савецкае грамадзянства і так і памерла без сярпастага-малаткастага з годнасьцю беларускай нацыяналісткі. А вось як інтэрпрэтуе гэтыя падзеі на старонках *Свободных Новостей* нехта М.Бяляцкая. Пра дзейнасьць Ларысы у калябаранцкай беларускай самапомачы спадарыня Загорская піша наступнае: «Гениюш была казначеем и никакой деятельности не проводила». Яе антыкамуністычная дзейнасьць не выходзіла за вершаплёцтва: «Однажды, услышав по радио что белорусские военопленные нуждаются в помощи, послала на радио маленькую фантазию «Весна». Ее попросили еще и она стала писать. Там не было политики». Уся астатняя біяграфія Геніюш у тым сама духу, па ціпу: «Жыла-была даверлівая дзяўчынка Ларыса. Злыя фашысты зманам зацягнулі яе ў сваё логава, з понтам вершы паслухаць, пакарысталіся і кінулі. Прыйшлі бальшавікі і давай яе за супрацоўніцтва з фашыстамі. На самой справе Геніюш чысты херувім. Яна ні хера не разумела. Дурачка вось такая была.» Дакуль працягнецца гэтае глумленьне над лепшымі антыкамуністычнымі дачкамі Айчыны! Колькі яшчэ мужных ваякаў будуць падаваць як пасіўных мудакоў. Ніякай ганебнай рэабілітацыі для Геніюш! Жыве Беларусь!

**Радаслаў Астроўскі,**
Беларуская Краёвая Абарона



## Менск МАГДЭБУРСКІ?

Цяжкае выпрабаваньне выпала на неакрэплыя душы сталічных тусоўшчыкаў, якія да гэтага часу бавілі свой вольны час у сквэры на Плошчы Свабоды, вядомай як «художка». Як паведамляе газэта *Вечерний Минск* (№49 ад 13.03.02), Менгарвыканкам раптам вырашыў аднавіць менскую ратушу, разбураную ў XIX ст. расейска-фэадальніцкімі акупантамі, што кардынальна зьменіць увесь зьнешні выгляд Мэкі для прыхільнікаў вэрмута і моцных гатункаў піва. Пасьля рэканструкцыі ўсёй плошчы там зьявяцца чугунныя ліхтары, лаўкі ў стылі «рэтра», дрэваў розных пасадзяць, агародзяць гуканепранікальнай сьцяной – адным словам зьнішчаць ушчэнт сучасны сацыяльна-культурны ляндшафт гэтага кутку гораду.

Дзе, будзе цяпер бадзяцца залатая моладзь? Яны выйдуць на вуліцы, а на іх зараз так шмат брудных захапленьняў! Ці гэта той кошт, які прыйдзецца заплаціць за сярэднявечны выгляд сучаснага эўрапейскага мэгаполісу? ●

**Міхась Паўлаў,**
граданачальнік

## ЛЕТАЎ ТРУБЯЦКІ

Навінка музычнага рынку «ГРАЖДАНСКАЯ ОБОРОНА: Трибьют», запісаны двума дзесяткамі модных выканаўцаў, патрабуе неадкладнага дыягназу, бо перадусім, гэта сымптом нашага часу. Калі ўчорашні андэграўнд сёньня – мэйнстрым , то заўтра – «папсьня», пра якую гэтак гнеўна сьпяваў сам «мэтр Летаў». На трыб'юце «Попсню» перасьпявалі больш-менш трапна «ВВ». Да цікавых рымэйкаў з пэўнасьцю можна залічыць электрычны «Всё идёт по плану» (праект 386 DX), бабска-частушачную «Родину» (БАБСЛЕЙ) і – безумоўны хіт – «Я убил в себе государство» ў пераліцоўцы ЛЯПИСА ТРУБЕЦКОГО. Міхалок не выкабеньваўся ані на мілімэтар, каб закасіць пад Гр.Об. (што рабіла большасьць удзельнікаў зборкі), і сьпяваў сваім вакалам клінічнага шызіка, што дадало камічнасьці грознаму гімну татальных адмаўленцаў. Некалі Летаў займаўся тым, што перасьпяваў савецкія рэвалюцыйна-рамантычныя шлягеры ў панкавым стылі сваёй татальна-рэвалюцыйнай мэтафорыкі. Сёньня яна самаператвораная ў попс. Акрамя «новых песень пра галоўнае», увесь праект нагадвае мэмарыял, накшталт альбому, выпушчанага на 10-годзьдзе сьмерці Цоя: Летава хаваюць жыўцом. Відаць, ён ужо стаў клясыкам ●

## ЛЕпшы падарУнак!



## КутОк спажыўцА

### Купляйце беларускае

**«Навінкі» прапануюць чытачу компас у моры спажывецкіх тавараў. Нашы экспэрты дапамогуць вам не заблукаць у багацьці паліцаў беларускіх крамаў. Гэтым разам пра цукеркі.**

**ДРАЖЭ «ЖЕМЧУЖИНКА»** – гэта навінка вытворчасьці менскай фабрыкі «Камунарка». Прынцыповая навізна палягае ў тым, што кожнае дражэ начыненае настойкай з праполюсу. Як піша аўтар сатырычнага штотыднёвік *Минский курьер* Ганна Міхайлава ў артыкуле «Скажем болячкам наше сладкое «нет», «праполюс добра дапамагае пры прастудзе й запаленьні дзяснаў». Са свайго боку мы зьвяртаем увагу спажыўцоў на іншыя плюсы гэтага тавару – у склад настойкі праполюсу ўваходзіць сьпірт. Згодна з тэхналёгіяй, канцэнтрацыя алькагольнай складовай не павінна быць меншай за 2 кг на тону прадукту. Нарэшце айчынныя вытворцы задаволяць попыт на выпівон і закусон у адным фляконе. Смачна есьці! І піці!

**ІРЫС «ЗАЛАТЫ КЛЮЧЫК»** – клясычныя цукеркі вытворчасьці гомельскай фабрыкі «Спартак». Рэкамэндацыя Расейскай стаматалягічнай асацыяцыі, бо вельмі добра выдаляе старыя зубныя плёмбы, часам разам з зубамі. Сярод іншага цукеркі могуць выступаць субстытутам супэрклею. З-за сваёй шматфункцыянальнасьці заваявалі заслужаную любоў не аднаго пакаленьня спажыўцоў.

**ЛЕДЗЯНЕЦ «ПЕТУШОК»** – рарытэтны ласунак для тых, хто насталыгуе па савецкім часе, вытворчасьці ІП баба Маня. Фірмовая гандлёвая кропка ля ўваходу ва ўнівэрсам «Рыга». 100% нацюрпрадукт – толькі палёны цукар, вада й ніякіх кансэрвантаў. Гэта вам ня Chupa-Chups! Выдатны трэнажэр для паліроўкі тэхнікі аральнага сэксу. Абсмактаўшы цукерку, спажывец атрымлівае файную драўляную палачку прыкладна 5 см у даўжыню, якую можа выкарыстаць як зубачыстку ці проста ў гаспадарцы ●

**Цукерман**

# Як адыягнуцца:

## Зь дзеўкай пад музон

**21.03 Акварыюм – «Spring blues session».** У некалі крутым альтэрнатыўным клюбчыку сёньня лабаюць выключна блюзэры. MOJO BLUES, MARY LONG, SPOONFUL, Андрэй Казлоўскі... Такі музон добра ўстаўляе пасьля пятага куфлю піва.

**23.03, клюб Графіці – НЕЙРО-ДЮБЕЛЬ «Правдивые истории о том, как у Карлсона угнали комбинезон».** Алдовыя ціпа-панкі ўпадаюць у дзяцінства і кідаюць прад'юсэраў, якім шчыра абяцалі – да 12.04 аніякіх прэзэнтацыяў! Але «Графіці» – клюбок мажорысты, дарагаваты й цеснаваты. Каму цесната не па кайфу – тое самае 12.04 у парк-клюбе «Менск».

## З хлопчыкамі

**23.03 клюб «Вавілон» – Ка Слука з праграмай «Неба».**

**24.03 КЗМ. Раман Віктюк «Саламея».** Любімы блакітнымі рэжысэр прэзэнтуе спэктакаль па біблейскіх байках з прыпляценьнем Оскара Ўальда. У ролі Саламеі – мужык Зьміцер Борзін.

**23.03 Палац Спорту – Барыска Маісееў.** Канцэрт «Чужы» – лідэр нашага під-параду.

## У тэатры

Хто кажа, што ў тэатры можа быць сумна - харкніце мне ў твар! Сьпіс назваў кажа адназначна – у Менску яшчэ ёсьць куды пайсьці.

**22.03 «Жарсьці па Аўдзею» (Купалаўскі, ля Панікоўкі)**

**23.03 «Тэрмінова патрэбны самазабойца» (Горкага, ля Валадаркі)**

**24.03 «Вар'ят і манашка» (тамсама)**

**24.03 «Трызьненьне ўдвох» (Маладзёвы тэатар, Даўмана – хер яго ведае дзе).**

## У кіно

Аматары індыйскага кіно атрымаюць кайф ад прагляду фільму **«Пэрлы» («Камсамолец», да 24.03)**, а сапраўдныя пацаны проста абавязаныя заценіць круты францускі баявік пра героя барацьбы за незалежнасьць Конга Патрыса Лумумбу **(«Перамога», 21.03)**.

Увесь тыдзень ідуць буржуйска-багемны фільм **«Амэлі» («Кіеў», да 24.03)**, а таксама культавая, але тупая фэнтэзі-кіношка **«Валадар пярсьцёнкаў» («Мір», «Масква», «Кастрычнік»)**.

На заканчэньне рэкамэндую схадзіць у **Музкамэдыю** на балет пад шматабяцальнай назвай **«Новыя амазонкі» (21.03)**. Тыя, хто памятае аднайменную польскую эратычнае кіно 80-х, такога шоў не прапусьцяць.

**Санітар,**
культурны футуроляг

# «Хадзіце жэрці, калі ласка!»

## *Новае адкрыцьцё тэатра лялек для бальшых мальчыкаў*

Нялёгкі лёс журналіста занёс мяне нядаўна ў Дзяржаўны Тэатар Лялек. Давалі спэктакаль «Кушать подано». Прызнаюся, што прадчуваў убачыць пабітых мольлю лялек у залатаных сукенках і млявых лялькаводаў з трасучыміся пасьля ўчорашняга рукамі і квазідзіцячымі пісклявымі галаскамі. Расьпіхаўшы лакцямі другагоднікаў-перарасткаў і іх расфуфыраных сяброўак з чолачкамі а-ля Натальля Арэйра, я заняў VIP-месца ў пятым радзе і падрыхтаваўся паглядзець на ўсялякіх там шчанюкоў Гаваў, Пятачкоў, Бурацінаў і іншую лялечную нежыць.




Уявіце маё зьдзіўленьне, калі ў промнях рампы зьявілася Валькірыя чатырохмэтровага росту і пад яе тантрычныя расьпевы на сцэну пачалі праецыраваць слайды з даволі адкравеннымі эрацічаскімі гравюрамі. Ну, прама, «Твін Пікс» нейкі! Тут бэйбусы-пераросткі пачалі рагатаць, адпускаць пошлыя жарты, і мне прыйшлося ўкалаціць у глотку марожанае-эскімо нейкаму надта ўжо заклапочанаму тынэйджэру з суседняга рада.

А на сцэне тым часам ужо разгорталася пантаміма, пырхаў у тазіку рукатворны лебедзь, скакаў казлом экспрэсіўны чорт, пакутаваў гаротны мастак. І усё гэта амаль бязь лялек, бяз словаў і без абрыдлага ўсім жымантства, грымасаў і крыўляньняў, так уласьцівых акторам нашых драматычных тэатраў. Поўная абстракцыя: жэст, сьвятло, музыка, лоўкасьць рук і ніякага махлярства! Наогул, спэктакаль уяўляў сабой сэрыю цудоўных міні-п'есак, зьвязаных паміж сабой, нажаль, даволі няўклюдным сюжэтам. Усё дзеяньне праходзіла нібыта ў нейкім кабачку, і таму час ад часу па сцэне шоргаўся галоўны пэрсанаж – афіцыянт з тварам героя-палюбоўніка і праблемамі рэалізацыі асобы. Калі ў самым канцы гэтага тыпа задушылі паўстаўшыя абрусы, нават маладыя гопнікі, урад ці зразумеўшыя натужлівы сымбалізм дадзенага вобразу, уздыхнулі з палёгкай.

Вучняў пад канвоем класных дам пачалі выводзіць з залі, а я тым часам слізкім вужом прапоўз за кулісы, каб раздабыць інфармацыю для чытачоў *Навінак*. І там, у пыльных кулюарах, па вялікаму сакрэту мне нашапталі на вуха, што ў бліжэйшых плянах тэатру – пастаноўка лялечнай опэры «Папялушка» на музыку вядомага францускага паліфаніста-экспэрымэнтатара Маснэ, а ў наступным месяцы masters of puppets парадуюць нас постмадэрнісцкім «Вішнёвым садам» ●

**Карабас Барабас,**
тэатразнаўца

*Музыка*

## Маё сэрца спынілася

Нядаўна ў Менску праходзіў чарговы канцэрт зорак расейскай поп-рок сцэны, гурту СПЛИН. Нічога звышнатуральнага ад гэтага канцэрту не чакалася. Здавалася, як заўжды СПЛИН адфундырыць ужо абрыдлыя хіты, зал параве разам з вакалістам, потым некалькі бісаў, песьня зь фільму «Брат-2», і ўсе спакойна разыйдуцца па хатах. Але на гэты раз перад уваходам у канцэртную залю гледачоў чакалі міліцыянты, якія пачалі правяраць ува ўсіх уваходзячых пашпарты. Ну які нармалёвы чалавек ходзіць на рок, ды хай нават на поп-канцэрт, з пашпартам? Гэта ж не які-небудзь канцэрт сымфанічнай музыкі, дзе калі ты пачнеш скакаць, ці нават семкі лузгаць, то нічога акрамя цыканьня бабулек не пачуеш. Тут трэба адрывацца, скакаць, дзыгаць як казёл падчас вясновага гону. А яны – давай пашпарт. Карацей на канцэрт не пускалі людзей без пашпартоў і тых, каму няма 18 гадоў.(?!) Дзіўна, бо здаецца стрыптызу ў афішах не было, і нешта ня верылася, што падчас песьні пра апошні фільм Фэліні ў залю паляцяць шпрыцы з гераінам. Дагэтуль застаецца загадкай, што ж там такога гэныя «сьпліны» рабілі, што без пашпарту на іх глядзець нельга было?

# Прыгажуня і пачвара

У аўторак 19 сакавіка БМА прэзэнтавала свой чарговы вычварэнскі праект пад назвай «Прыгожае». У ім сьпявачка Вікторыя Ільлінская выконвае «лірычныя рамансы» на вершы ні каго іншага як... Славаміра Адамовіча!

Што ж прыгожага можа быць у лексыцы саракагадовага уркана, асноўная тэматыка творчасьці якога – вертухаі і пэдалі, сэкс з 13-гадовымі малалеткамі, турэмная параша, крывавыя забойствы прэзыдэнтаў і іншая чарнуха? Міжволі складаецца ўражаньне, што аўтары праекту вырашылі заняць яшчэ не забітую нішу «кабацкага шансону», знайшоўшы для яго т.зв. нацыянальную форму. Жаночы вакал, беларуская мова, прэзэнтацыя ў Траецкім – усе гэтыя інтэлігенцкія фішкі не падмануць тых, хто добра ведае творчую біяграфію і лірыку Славіка. На першы альбом выдаўцы абралі самыя бяскрыўдныя вершыкі. Але калі праект крымінальнай лірыкі будзе мець посьпех у публікі, яго можна працягнуць і больш сьмелымі рэчамі. Напрыклад, зьвярнуць увагу на тэксты кшталту «Адмоўна – сьведчыць Васэрман. Я ажываю, я зноў гатовы на таран, бо зноў кахаю!» альбо «Люблю цябе татальна, як тэрор». Хітом другой часткі таксама можа стаць незабыўны герантанэкрафільскі вершык пра «дзеда, які астывае».

Тады нацыянальна сьвядомыя «крутыя пацаны» змогуць паміж разборкамі раняць скупую сьлязіну пад пранікнёныя хіты кшталту «Убей президента» альбо «Хвароба ўрэзала мяне філасаВІЧна»... А мне больш падабаецца, як Кася «Мурку» сьпявае ●

**Санітар**



Эксплюатацыя вобразу паэта, нацыяналіста і бандзюгана ў адной асобе – ня ёсьць ноў-хаў беларускіх эстэтаў. Найбольш блізкі да Адамовіча і шырока вядомы нашай публіцы вобраз – Эдзічка Лімонаў. Неразборлівасьць у сэксуальных і палітычных сувязях, шызафрэнічны нацыяналізм, спалучаны з ахмурэньнем адмарожаных малалетак – сымптомы лімонаўскай хваробы. Толькі ў адным беларус абскакаў свайго расейскага протатыпа – калі Лімон грымануў на нары за захоўваньне зброі, ягоны беларускі калега ўжо адкатаў свой тэрмін за заклік да тэракту.



***Рэдакцыя** запрашае прыватных **распаўсюднікаў** да супрацоўніцтва на выгодных умовах.*
*Тэл. (017) 2208377, з 14[00] да 16[00]*

# ДЗЕНЬ СУРКА


Штогод на 25 сакавіка па традыцыі журналіст адной незалежнай газэты «Н*» Уладзіслаў Пятнікоўскі робіць сьвяточны рэпартаж зь мітынгу апазыцыі. Тэтыя акцыі былі так падобныя адна да адной, што ён нават губляў у тэты дзень арыентацыю ў часе й прасторы. І вось напярэдадні чарговага Дня Волі Улад атрымаў рэдакцыйнае заданьне...
Выклікалі, Палгенадзіч?
Сёньня Дзень Волі. Трэба зрабіць эксклюзіў.
Будзь спок, шэф, зробім па поўнай праграме. Як заўжды
Скажыце, зь якой мэтай вы выйшлі на маніфэстацыю?
Мы прыйшлі сюды паказаць, што мы яшчэ жывыя!
Як вы ставіцеся да таго, што тут адбываецца?
Тут сабраліся хуліганы, я бы сказаў палітычныя авантурысты
Врош-не вазьмёш
Ух ты, Шчукіна панесьлі! Жывога!
Не трымай запівон!
Пасьля працы Ўлад быў аматарам хлябнуць піўка
Паддаўшы, ён сеў пісаць матэрыял, але яго неўзабаве размарыла
Ой, гэта ж на працу трэба валіць
09:00
Прачнуўшыся зранку, ён як заўсёды пабег у рэдакцыю. Ён яшчэ ня ведаў, што яго чакае
Сёньня Дзень Волі. Трэба зрабіць эксклюзіў
Гэта было падобна да дэжавю
Добра, Палгенадзіч, зробім
Скажыце, вы рэгулярна ходзіце на дэманстрацыі? Чаму?
Мы прыйшлі сюды паказаць, што мы яшчэ жывыя!
І тут ягоную ўвагу прыцягнула заўсёдніца такіх акцыяў
Здарова, мяне Ўлад завуць
А я Таня, Таня Шырліна. Я газэты прадаю
Каб хоць неяк забіць час, Улад вырашыў падкаціць да дзяўчыны
Врош-не вазьмёш
Не пужайся, гэта Шчукіна папёрлі.
Не трымай запівон!
Пасьля акцыі Ўлад зноўку па звычцы прыняў на грудзь і...
09:00
На працу!
Сёньня Дзень Волі. Трэба зрабіць эксклюзіў.
Скажыце, вы ня бачылі тут дзяўчыны з газэтамі?
«Дзень» яўна зацягнуўся, што ўжо пачало даставаць
Мы прыйшлі сюды паказаць, што мы яшчэ жывыя!
Здарова, Танюша. Як справы?
А... мы што, знаёмыя?
Улад пачаў шукаць, чым разбавіць нудныя будні рэпарцёра
Ды задралі вы яго насіць! Дай і я прысандалюся!
Врош-не вазьмёш
Пасьля акцыі Ўлад прапанаваў Тані разам пайсьці адтапырыцца
Як ты даведаўся, што «ёрш» – мой любімы напой?
Вечар удаўся на славу
09:00
Падымайся, сёньня ж Дзень Волі, а мне рэпартаж рабіць
Што?.. Які Дзень Волі!
Але гэта ўжо было 26 сакавіка і зусім іншая гісторыя...